



# Наша Слова





Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 27 (291) 4 ліпеня 1996 г. Кошт — 1000 рублёў

*У газетах*
**ВЫСОКІ РЭЙТЫНГ ЮРЫЯ ХАДЫКІ**
*Стар. 3*

**НА ВУЛІЦЫ — ПА-РАСІЙСКУ, З МАЦІ — ПА-БЕЛАРУСКУ**
*Стар. 5*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ ***ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ПАРЛАМЕНЦКАГА СХОДУ СУПОЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ І РАСІІ ПРАЙШЛО Ў СМАЛЕНСКУ.*** *Нягледзячы на тое, што рашэнні, што прымаюцца на сесіях Парламенцкага сходу, будуць насіць рэкамендацыйны характар, на думку спікераў абедзвюх дзяржаў, сама спроба уніфікаваць заканадаўчыя акты Беларусі і Расіі заслугоўвае ўвагі. На гэтым пасяджэнні быў разгледжаны шэраг пытанняў, што тычацца нашых краін, але ўсё ж засталося нявырашанае — хто будзе фінансаваць дзейнасць Парламенцкага сходу?*

○ **У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ** «Дэмакратычныя працэсы ў Беларусі і асноўныя тэндэнцыі і супярэчнасці», якую ладзіў Інстытут незалежных даследаванняў Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад». У час дыскусій, у якіх удзельнічалі эксперты, вучоныя і парламентарыі Беларусі, Расіі, Украіны, Летувы, Польшчы, Германіі, усе пагадзіліся з думкай, што ў Беларусі структурныя рэформы практычна яшчэ не пачаліся.

○ ***У НАШАЙ КРАІНЕ ПРАЙШЛО ПАСЯДЖЭННЕ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ СВАБОДНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ.*** *Беларусь на гэтай сустрэчы прадстаўлялі старшыня Свабоднага прафсаюза рэспублікі Генадзь Быкаў і прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Сяргей Ігўчын. Адна з асноўных праблем, якія разглядаліся на кангрэсе, — сітуацыя на Беларусі. У Міжнародную канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў уваходзяць больш за 120 мільёнаў чалавек з 120 краін свету.*

○ **У ЛІПЕНІ ЖЫХАРЫ СТАЛІЧНЫХ МІКРАРАЁНАЎ МАЛІНАЎКА І ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД** змогуць прымаць 16 праграм тэлебачання. Сярод іх, на жаль, толькі адна беларуская і то напалову расійскамоўная. *У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ІНФАРМАЦЫЯ, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прапанаваў Міністэрству адукацыі і навукі рэспублікі зрабіць з 1 верасня для школьнікаў два выхадныя дні на тыдні.*

○ **БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ У НЕЗАЛЕЖНАЙ ВЫДАВЕЦКАЙ КАМПАНІІ «ТЭХНАЛОГІЯ»** выдаў кнігу «На гістарычным скрыжаванні». Кніга на беларускай мове.

○ ***АБ'ЁМ ЗНЕШНЯГА ГАНДЛЮ БЕЛАРУСІ Ў СТУДЗЕНІ—ТРАЎНІ 1996 ГОДА ЎЗРОС*** *у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 38,5 працэнта і дасягнуў 45 991 мільярда рублёў (каля 4 мільярдаў долараў ЗША). Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі нашай краіны застаюцца Расійская Федэрацыя, Германія, Польшча, Украіна, ЗША, Латвія, Летува...*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** «Аб пераўтварэнні Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь» у творчае аб'яднанне Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь са стварэннем у структуры ўказанага аб'яднання Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь з правамі юрыдычнай асобы. Дзякуючы такому пераўтварэнню з'явілася магчымасць рэстаўрацыі і рэканструкцыі будынка творчага аб'яднання, а таксама павышэнне дзевочых службовых акладаў у сярэднім у 1,7 раза.

# Будзе створана «Белая кніга»

14 чэрвеня ў сталічным Доме літаратара адбылося пасяджэнне «круглага стала», арганізатарамі якога сталі Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы ды Менскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школаў і класаў, а тэмаю — факты знішчэння сістэмы беларускамоўнай адукацыі.

У прамовах удзельнікаў «круглага стала» прыводзіліся шматлікія факты пераводу навучальных установаў з беларускай мовы ў расійскую. Прысутнымі быў зроблены шэраг прапановаў аб захадах да змены гэткага становішча.

У якасці найбольш эфектыўнага спосабу супрацьдзеяння працэсу гвалтоўнай асіміляцыі беларусаў арганізатарамі нарады было прапанавана стварэнне збору дакументаў-сведчанняў няроўнага становішча беларускамоўных грамадзян краіны. Гэтая ідэя лягла ў аснову прынятай пазней рэзалюцыі.

Свае меркаванні адносна стану беларускамоўнай адукацыі ды дзейнасці арганізацый-удзельніц «круглага стала» выказаў прысутны намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі і навуцы Іван Свірыд. Пераблытаўшы ў сваёй эмацыянальнай прамове ўдзельнікаў «круглага стала» з актывістамі БНФ і выказаўшы неразуменне прысутнасцю на нарадзе нацыянальнай сімволікі, прадстаўнік заканадаўчай улады прадэманстраваў ступень разумення ёю праблем нацыянальнага жыцця беларусаў.

У.П.

### Рэзалюцыя

Звесткі, сабраныя арганізацыямі-ўдзельнікамі «круглага стала», дазваляюць зрабіць выснову: у Беларусі адбываецца інспіраваны дзяржаўным кіраўніцтвам краіны працэс пераводу сістэм дашкольнага выхавання, сярэдняй і вышэйшай адукацыі з беларускай мовы ў расійскую.

У выніку па-беларуску навучаюцца толькі 34,8% ад агульнай колькасці вучняў. Зменшыўся набор у першыя класы з беларускай мовай навучання. Так, у сталіцы ў 1995/1996 навучальным годзе толькі 19,5% першакласнікаў вучылася па беларускіх букварах, тым часам як летась гэтая лічба складала болей за 50%.

Перад пачаткам новага навучальнага года мы канстатуем наяўнасць дыскрымінацыі грамадзян Беларусі паводле моўнай і этнічнай прыналежнасці. Утварэнню гэткай сітуацыі проста ці ўскосна садзейнічалі асобныя сродкі масавай інфармацыі.

Арганізацыі-ўдзельнікі «круглага стала» маюць намер прыцягнення да судовай адказнасці асобаў, вінаватых у прымусовай асіміляцыі беларускамоўнай часткі насельніцтва — г.зн. у парушэнні асноўных правоў чалавека, гарантаваных беларускай Канстытуцыяй і міжнароднымі пагадненнямі.

Арганізацыі-ініцыятары «круглага стала» маюць намер пачаць збор сведчанняў грамадзян Беларусі аб парушэннях дзяржаўнымі структурамі прынцыпу этнічнай і моўнай роўнасці ў дачыненні да іх.

Гэтыя сведчанні разам з імёнамі асобаў, вінаватых у парушэнні правоў чалавека, склаўшы «Белую кнігу», стануць базаю працягу праваахоўчай дзейнасці Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы і Менскага гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў.

*Культурнае жыццё*

## Дзісенскія чытанні

Пачатак сёлетняга лета прыемна ўразіў разнастайнымі імпрэзамі. Можна было пераканацца, што культурнае жыццё буяе і ў невялікіх гарадах ды мястэчках. Добра вядомыя ў краіне і па-за яе межамі Навагародскія, Браслаўскія, Карэліцкія чытанні. А 20 і 21 чэрвеня ўпершыню падобная сустрэча навукоўцаў, працаўнікоў культуры і краязнаўцаў адбылася ў Мёрах.

Дзісенскія чытанні. Іх ладзілі Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча (яго ўзначальвае Міхась Райчонак), Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага фонду Сораса, Мёрскі раённы гісторыка-этнаграфічны музей, народны музей СШ № 3 г. Мёраў і яго кіраўнік настаўнік Вітаўт Ермалёнак ды аддзел культуры Мёрскага райвыканкама. Згаданыя краязнаўцы заслужылі падзяку ўсіх гасцей Дзісенскіх чытанняў.

Было запрошана больш за 50 навукоўцаў і краязнаўцаў з Беларусі, Польшчы і Расіі. Прыехалі навукоўцы з Менску: Лідзія Кулажанка, Анатоль Грыцкевіч, Эдвард Зайкоўскі, Міхаіл Спірыдонаў, аўтар гэтых радкоў і паэт Сяргей Панізьнік. Актыўна ўдзельнічалі ў чытаннях гарадзенцы. А. Майсяёнак, які родам з Дзісны, вёў пленарнае пасяджэнне. Генадзь Семянчук распавёў пра мясцовыя археалагічныя помнікі X—XII стагоддзяў, а Віктар Швед — пра падзеі ў Дзісенскім павеце пад час паўстання 1831 года. З цікавымі дакладамі выступілі госці з Польшчы: Міхал Вазгірд, доктар хімічных навук з Торуня (ён паходзіць з Дзісеншчыны), і яго пляменнік Яцак Крыгзайзен, які пераканаў, што менавіта беларускія шляхецкія сядзібы сталі ўзорам падобным збудаванням у Польшчы, а не наадварот.

Мёрскія краязнаўцы далі добры прыклад сваім калегам і сябрам з суседніх раёнаў.

**Леанід АКАЛОВІЧ.**

## Падняпроўскі фэст



Шмат гуртоў удзельнічала ў Фестывалі аўтэнтычнага фальклору Беларускага Падняпроўя. Прыехалі і спявачкі з вёскі Янова Веткаўскага раёна — іх вы бачыце на здымку побач. Яноўскія жанчыны два гады таму цудоўна выступілі на Міжнародным фальклорным фестывалі 1994 года ў Пінску. І на Магілёўшчыну завіталі, каб нагадаць, што яны, дзякуй Богу, жывыя, што спяваюць і што яноўскі жаночы спеўны гурт усё яшчэ лепшы.

**Аляксей ГАЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

(Рэпартаж з фестывалю чытайце на 2-й старонцы).

*З нагоды*

# Фашызм у Беларусі не пройдзе

Дваццаць другога чэрвеня ўся Беларусь адзначала сумную дату: 55 гадоў таму войскі фашысцкай Германіі ўварваліся на нашую тэрыторыю, знішчаючы гарады і вёскі, забіваючы людзей. Тады беларусы здолелі даць дастойны адпор захопнікам. Зусім не за Сталіна, не за СССР змагаліся з гітлераўцамі нашыя суайчыннікі. Вядома, што Чырвоная Армія амаль без супраціўлення пакінула большую частку Беларусі гітлераўцам. Нашыя людзі змагаліся ў той вайне за сябе, за свае сем'і і сваю зямлю.

— Прайшло 55 гадоў, але ці знік фашызм наогул? — Не, — адзначалі тыя, хто ўзяў удзел у масавых акцыях «Беларусь супраць фашызму». — Цяпер ён імкліва адраджаецца на тэрыторыі Беларусі і Расіі ў новым выглядзе. Адбыўся сімбіёз двух таталітарных ідэалогій — камуністычнай і фашысцкай, якія толькі на першы погляд здаюцца антаганістычнымі, а на самай справе падобныя, як браты-блізняты, — адзначалі выступоўцы. У гісторыі хапае прыкладаў. Самы яскравы — пакт Молатава—Рыбентропа. Новы камунафашызм выпрацаваў сваю ідэалогію ўсходнеславянскай выключнасці, у якой лёгка спалучаецца чырвоны сцяг і праваслаўны крыж, і пад усім гэтым стаіць ідэя расійска-беларускай адзінай дзяржавы. Варта толькі паглядзець, чым зараз з'ядноўваецца кампартыя Расіі ці падобныя партыі ў Беларусі. Тыпова марксісцкай ідэалогіі там практычна не засталося. Сёння іх ідэалогія — расійскі нацыянал-сацыялізм. У Беларусі камунафашызм дзейнічае адкрыта, казалі выступоўцы. Узгадайце збіццё дэпутатаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце, нядаўнія разгоны дэманстрацый і арышты апазіцыянераў, татальны наступ на беларускую мову і культуру.

Каб запабегнуць скатванню краіны ў гэтую бездань, Беларускі Народны Фронт і іншыя дэмакратычныя партыі ды рухі правялі 22 чэрвеня адпаведную масавую акцыю. На гэты раз гарадскія ўлады ўсё ж далі дазвол аргкамітэту на яе правядзенне. Многія звязваюць гэты дазвол з прыездам 22 чэрвеня ў Беларусь прэзідэнта Расіі Ельцына. Як бы там ні было, але магу засведчыць тое, што ў гэты дзень ахоўнікі парадку паводзілі сябе ў адносінах да дэманстрантаў належным чынам.

Ужо а 10.30 раніцы ў скверы каля помніка Я. Купалу пачалі збірацца людзі. Было паднята шмат нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў і транспарантаў, змест якіх адпавядаў настрою таго дня. Прыкладна а 11.20 дэманстранты выйшлі на праспект Ф. Скарыны і пад гукі жалобнай музыкі пачалі рух да помніка Перамогі. Наперадзе ішлі ветэраны, якія неслі вянкі і гірлянды з жывых кветак, каб ушанаваць памяць тых, хто загінуў ад рук нацыстаў. Перад гэтым кветкі да помніка Перамогі ўсклалі прэм'ер-міністр М. Чыгір і прадстаўнікі ветэранскіх і камуністычных арганізацый. Каля 12 гадзін дэмакратычная калона выйшла на плошчу Перамогі і дэлегацыя ветэранаў ўсклала кветкі да Вечнага агню. Пасля на заклік арганізатараў людзі рушылі ўзбярэжжам Свіслачы да тэатра оперы і балета, дзе адбыўся мітынг. Нягледзячы на праліўны дождж, усё новыя і новыя людзі ўліваліся ў калону. Так, калі пры выхадзе з купалаўскага сквера яна налічвала каля трох тысяч чалавек, то пад час руху вырасла прыкладна да дзесяці тысяч. Калі галава калоны падымалася на мост на вуліцы

*(Заканчэнне. на с. 5.)*

*Уражанні*

# Койданава — не Дзяржынск

Вось і мінуў год, як з афіцыйным шумам быў праведзены травеньскі рэферэндум, а ягоныя вынікі да гэтага часу канчаткова яшчэ так і не «разгадалі» тыя галасавальшчыкі, што выказаліся «за». Ды што шараговыя галасавальшчыкі, калі праз паўгода ажно кіраўнік прэзідэнцкай Адміністрацыі афіцыйна звярнуўся да «ўсіх-усіх», дома і за межамі, з прапановай за ўзнагароду растлумачыць — што там на гербе «з каласкамі» стварылі за сімволіку мастакі, якія ўжо адхапілі важкае тое-сёе за хуткаснае выкананне высоканачальніцкага заказу? Пра гэта міжволі згадалася ў Койданаве, калі я паслухаў разважанні тамтэйшых жыхароў.

Дарэчы, пра гэтае мястэчка. Яно — тыповая ахвяра бальшавіцкіх перайначанняў, калі камуністычнае начальства не лічылася з беларускай гісторыяй, увасобленай у тапонімы. Хутчэй некаму нават саладка было знішчыць старажытную назву гарадка, звязаную з перамогай зброі і сілы духу нашых продкаў — вояроў Вялікага Княства. Койданава перайначылі ў Дзяржынск, бо тут, непадалёку, «жалезны Фелікс» некалі нарадзіўся.

Праўда, старажытную назву захавала хоць чыгуначная станцыя, застаўшыся Койданавам. «Ну, як вам пасля рэферэндуму: лепей гаворыцца пры афіцыйным двухмоўі? Весялей жывецца пад новым сцягам? — пытаюся я ў койданаўцаў. — А ўвогуле, як вы галасавалі тады, на рэферэндуме, па пытаннях мовы і сімволікі?»

Скажу адразу, у адрозненне ад зусім нядаўняга часу, калі людзі нарэшце крыху прывучыліся шчыра выказваць свае думкі, цяпер такая «смеласць» пачынае станавіцца выключэннем. Амаль усе, калі і пагаджаліся адказваць на пытанні, гаварылі сцішана, азіраючыся па баках і не называючы прозвішчаў. Шмат хто распытваў, як у Менску спецвойскі распраўляліся з дэманстрантамі.

Прыводжу найбольш тыповыя адказы.

**АНДРЭЙ, 25 год, тэхнік-механік** аднаго з тутэйшых прадпрыемстваў:

— Па ўсіх пытаннях рэферэндуму я галасаваў не «за», а «супраць». Асабліва пакрыўдзіла тое, што мне прапаноўвалі скасаваць гістарычную сімволіку ды прынізіць родную мову. Інтэграцыя ж з Расіяй? — чарговая «ліпа». Ніякіх нам даўгоў за «братэрства» не даруюць — ні за газ, ні за нафту.

Як жыццё? Не палепшылася. Наадварот. Зарплата мізэрная — адзін ледзьве пракормішся. Калі б нейкія «халтуры» не знаходзіў, даўно б ад нішчымніцы ахвярэў. Ведаю такія выпадкі. Эканомікай трэба сур'ёзна займацца. Хопіць «гнаць» тавар, які ні ў нас, ні тым болей у Расіі не хочуць купляць.

**Дзве жанчыны. Сёстры, калгасніцы, пенсіянеркі** (дабіраюцца дахаты, імёнаў, прозвішчаў не назвалі):

— Галасавалі па ўсім «за». Самі мы гаворым па-беларуску, а дзеці болей па-расійску. Таму хай сабе жыве і расійская мова, нечага тут бунтаваць народ. Пра Кастуся Каліноўскага нічога не чулі... Гэта, відаць, як Пазьняк, з паліцаяў?..

Жывём як? У нас калгас багаты, бо старшыня разумны. Дае нашым каровам бясплатнае сена. І пенсіі ідуць. Нішто сабе пенсіі, калі на сваёй сядзібе не ленавацца. Усё добра... Толькі вось нейкі БНФ са сваім Пазьняком перашкаджае нашаму Прэзідэнту жыццё наладжваць і зладзеяў у турмы саджаць...

**МІХАІЛ, 30 гадоў, будаўнік** (рамантуе памяшканне вакзала на ст.Койданава):

— На рэферэндуме галасаваў за беларускую мову і бел-чырвона-белы сцяг. Супраць зліцця з Расіяй. Супраць прадастаўлення Прэзідэнту права распускаць Вярхоўны Савет — павінна быць паміж галінамі ўлады нейкая здаровая супрацьвага, нечага тут самадзяржаўе гадаваць...

Як жыццё зараз? Не асмельваемся жыць сваім розумам. Я за тое, каб сапраўды рынак быў. Хто ўмее працаваць, каб добра зарабляў. А каб не пладзіць ніякіх эксплуататараў, трэба каб сапраўдныя прафсаюзы былі, а не забараняць іх... Жыву — ледзь зводжу канцы з канцамі. Калі так далей пойдзе, пачну нечымгандляваць. Але вось чым?..

**ІВАН АЛЯКСАНДРАВІЧ, пенсіянер з Менска, 65 год** (у Дзяржынск прыехаў на бацькаўшчыну, бо тут нарадзіўся і мае родзічаў):

— Галасаваў па ўсіх пытаннях — «за». Бо спадзяваўся на кіраўніка дзяржавы. Асабліва — за інтэграцыю з Расіяй. Мы ж — народы-браты, нам трэба быць разам... Не, толькі не ў Чачні і не ў Таджыкістане, і не ў іншых «гарачых кропках». Тут павінны рашаць мы, беларусы. Мне ўсё адно, які сцяг, якая мова — галоўнае, каб было што есці, што абуць, апрануць ды каб дах над галавою быў. І калі ваш сцяг быў дзяржаўным, я супраць яго не выступаў...

Праўда, з інтэграцыяй нявязка атрымалася. А я спадзяваўся, што як з'інтэгруемся, то мая пенсія хоць троху падрасце. Бо мне вось налічылі яшчэ пры СССР 132 рублі — дык гэта былі вунь якія грошы! А цяпер іх пераўтварылі ў 450 тысяч «зайцоў» — і хто я? Жабрак. Каб не бацькава сядзіба, што мне тут перайшла ў спадчыну, дык не ведаю, як бы і жыў. Дарэмна разбурылі Саюз...

**ВІТАЛІК, студэнт аднаго з тэхнікумаў у сталіцы, 19 год** (тут, у бацькавым доме, рыхтуецца да летняй сесіі):

— Рэферэндум праігнараваў. Палітыкай не займаюся. Але мову беларускую люблю. Калі б сёння быў бы рэферэндум, пайшоў бы і прагаласаваў за беларускую мову, бел-чырвона-белы сцяг, супраць зліцця з Расіяй. Я не веру ні ў якую інтэграцыю: там капіталізм, а тут казарменны сацыялізм, як такія рэчы інтэграваць? А высокае начальства хай бы лепей займалася рынкавымі рэформамі...

Як жыву? Канешне, стыпендыя такая, што і казаць сорамна. Каб не дапамагалі бацькі, кінуў бы вучыцца, бо нельга жыць, спажываючы за дзень булачку і шклянку кефіру...

**МАРЫЯ ПУЗАН** (гандлюе ў прывакзальным камерцыйным кіёску, каля 36 год, мае трое дзетак-школьнікаў):

— Не баюся называць прозвішча. Мяне гаспадар за інтэрв'ю з вамі з работы не пратурыць. Галасавала за родную мову, за наш бел-чырвона-белы сцяг. Ніякай інтэграцыі нам з Расіяй не трэба — лепей хай дадуць нармальна, як у іншых краінах, развіваць дробны бізнес...

Як стала гандляркай? Прыйшла з дзяржпрадпрыемства, дзе не плацілі месяцамі зарплату. А дзяцей карміць трэба... Вось і ўладкавалася сюды... стараюся. На пракорм, канешне, хапае. Былі б нармальныя законы наконт камерцыі — хапіла б і на іншыя патрэбы... Мяркую, што гэты рэферэндум нічога добрага нашаму народу не даў. Я са сваёй «тройкай», калі б не пашанцавала сюды на працу ўладкавацца, дык проста прапала б.

Паслухаў я койданаўцаў і яшчэ раз пераканаўся: каб жыць матэрыяльна добра, трэба свой розум мець, а не чакаць манны нябеснай. А каб жыць сваім розумам, трэба быць нацыяй. Нацыя ж і мову ўласную мае ды беражэ, і сімволіку гістарычную шануе. На адно хачу звярнуць увагу: усе, хто ў часе майго апытання ў Койданаве імкнуўся разважаць пра сувязь уласнага лёсу з народам і яго гісторыяй, альбо адразу размаўляў са мною на беларускай мове, альбо пасля першых жа словаў гаворкі на яе пераходзіў. Некаторыя, як бы ўспамінаючы, абуджаючыся.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*У газетах*

# Высокі рэйтынг Юрыя Хадыкі

Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» разам з «Независимой газетой» і ТАА «Скарына» правялі апытанне сярод экспертаў з мэтай вызначэння 50 самых уплывовых палітыкаў Беларусі за травень. У апытанні бралі ўдзел галоўныя рэдактары і палітычныя аглядальнікі цэнтральных газет, а таксама вядучыя сацыёлагі і палітолагі (усяго 61 чалавек). Сярод іх прадстаўнікі радыё «Свабода», газет «Свабода», «Імя», «Белорусской деловой газеты» і іншых дэмакратычных выданняў. Эксперты павінны былі паставіць адзнаку палітыкам па 10-бальнай шкале.

Галоўнай нечаканасцю траўня з'яўляецца высокі рэйтынг намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, які ўпэўнена заняў другое месца, атрымаўшы 5,74 бала, і апярэдзіў такіх вядомых палітыкаў, як В.Ціхіня, М.Мясніковіч, Г.Карпенка, З.Пазьняк, С.Шарэцкі ды іншыя. Першы радок заняў Прэзідэнт Лукашэнка (7,16). Безумоўна, на высокую адзнаку экспертаў паўплывала дваццацідзённая галадоўка Юрыя Віктаравіча ў менскім СІЗО.

Яшчэ адна сенсацыя — дзесятае месца міністра ўнутраных спраў Валянціна Агальца (3,85), падначаленыя якога на працягу траўня адпрацоўвалі свае прафесійныя навыкі на пратэстуючых менскіх студэнтах.

Эксперты паставілі адзнакі станоўчым і адмоўным бакам дзейнасці палітыкаў. Так, А.Лукашэнка ахарактарызаваны на 42,6% станоўча і на 54,1% адмоўна, Ю.Хадыка — 75,42—23%. Найбольш станоўчая адзнака ў Старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні — 93,5%—1,6%, а антырэкорд месяца стаў галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч: 13,1% — станоўча, 54,1% — адмоўна.

(Народная газета, 14 чэрвеня 1996).

**А.Н.**

*Але!* *Але!*

# «Экспрэс» наўздагон...

Газета «Вечерний Минск» даўно вядомая сваім устойлівым камуністычным імпэтам. Але тое, што яна прадэманстравала чытачам у № 111 у аўторак 18 чэрвеня (другі выпуск), прыкметна пашырае дыяпазон яе спецыфічных якасцей. У падборцы звестак «Городской экспресс» газета двойчы паведаміла пра страляніну па аўтамабілі, у якім ехаў дэпутат Вярхоўнай Рады Рэспублікі Беларусь і адзін з кіраўнікоў Эканамічнага суда СНД Віктар Ганчар. «Экспрэс», праўда, атрымаўся не першай «свежасці», бо некаторыя газеты паспелі паведаміць пра здарэнне раней, затое які! У першай з заметак падаецца не зусім уцямная гісторыя пра міліцыянта, у якога нейкі злачынец стрэліў, але «парень остался невредим только потому (во стыль! — У.А.), что пуля попала в его пистолет, находившийся в кобуре». Адразу ж чамусьці «злоумышленник и еще трое мужчин с места происшествия скрылись на иномарке». Цудоўна, што міліцыянт не пацярпеў, хаця нейкая загадка застаецца ў тым, што злачынец стрэліў толькі адзін раз, канешне ж, убачыў, што ягоная ахвяра нават не пахіснулася, і тым не менней тут жа рынуўся прэч. Ды яшчэ ў кампаніі трох «мужчын» (вось, і пол нехта паспеў адразу ж вызначыць). «Несур'ёзная» нейкая банда аказалася ці журналіст нечага не заўважыў? А міліцыянт, няўжо ў палове трэцяй гадзіны ночы адзін расслаблена шпацыраваў па праспекце? Чаму напарнікі ні разу нават не стрэлілі хаця б наўздагон злачынцам? Журналіст «ВМ» зноў пра гэта «ні гу-гу».

Затым у заметцы «ВМ» паведамляецца, што стрэліі-такі... Але ў іншым месцы, адзіночным зноў жа стрэлам па іншай, праўда, аўтамашыне і трапілі... у жанчыну. У яе толькі таму, як высвятляецца, што на тым месцы ў машыне выпадкова на гэты раз не сядзеў Віктар Ганчар, інакш куля дасталася б яму. Ну, тут, трэба спадзявацца, следства лепш разбярэцца ў сітуацыі, чымся рэпарцёр «ВМ». Мы ж звернем увагу зусім на іншы аспект паведамлення — «філалагічны». Цытуем: «Пуля «прошила» заднюю левую дверь и ранила, скажем так, в мягкое место (!?) пассажирку».

Значыць так, жанчыне прастрэлілі абедзве нагі ў вобласці сцёгнаў, а журналісты «Вечернего Минска» з гэтага вырашылі ці не пажартаваць, зняць, так бы мовіць, у чытача напружанасць і трывогу сваім «мягким местом».

І вось аб чым міжволі пачынаеш разважаць: тут праява звычнай бяздушнасці да чужога болю і бяды ці такое «праскочыла» толькі таму, што страляніна была па машыне дэпутата, вядомага сваімі антыкамуністычнымі і антыталітарыскімі настроямі? А што ў гарачцы жанчыну падстрэлілі? Дык жа памочніцу гэтага супастата-рыначніка і аднаго з кіраўнікоў да таго ж Грамадзянскай партыі. Ды і то не «сур'ёзна»: не трапіла ж куля ні ў хрыбетнік там, ні ў ныркі з печанню, ні ў сэрца нарэшце. Усміхайся, чытач, жарцікам «Вечернего Минска», радуйся, што гэта не табе ногі прастрэлілі.

**Ул. Ас.**

*Весткі з Гародні*

# *Таленавітыя нашы дзеці!*

Пад дэвізам «Надзея-96» у Гародні праходзіў 4-ы Міжнародны конкурс юных кампазітараў імя М.Багдановіча. На разгляд кампетэнтнага журы дзеці — удзельнікі конкурсу прадставілі цэлае «мора» музыкі: пяць балетаў, хоры, інструментальныя ансамблі, рамансы і песні. Вось што казаў сябра журы конкурсу «Надзея-96», заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі кампазітар Віктар Войцік: «Размах конкурсу незвычайны! І справа нават не ў арганізацыйных момантах. Мяне здзіўляе, адкуль бярэцца столькі таленавітых дзяцей! У старэйшай групе дзевяць удзельнікаў смела можна аднесці да ліку прафесійных музыкантаў...»

На шчасце, зямля наша, нягледзячы на Чарнобыль ды палітычныя эксцэсы, пакуль не збяднела на таленты. Вядома, музычная культура, і не толькі на Беларусі, развіваецца не без праблем. Пра гэта разважаў у сваім выступе старшыня Цярнопальскай краёвай суполкі Нацыянальнай Лігі ўкраінскіх кампазітараў Багдан Клымчук, у прыватнасці, сказаўшы: «Гэты Гарадзенскі конкурс вельмі патрэбны і Украіне, і Беларусі, і Расіі, і Польшчы. Нам трэба як мага больш такіх конкурсаў, таму што прафесія кампазітара знаходзіцца зараз у гаротным стане».

На конкурсе «Надзея-96» Украіна прадстаўлена даволі шырока. Яе юныя кампазітары прыбылі да Гародні са Львова, Кіева, Цярнопаля, Сімферопаля ды Адэсы. З кожным годам на Гарадзенскім конкурсе павялічваецца колькасць музыкантаў з Расіі. На гэты раз яны былі з гарадоў Масква, Яраслаўль, Чалябінск, Екацярынбург, Тальяці. Сябра журы конкурсу прафесар Маскоўскай кансерваторыі, кампазітар Тацяна Чудава зазначыла, што конкурс з кожным годам усё болей пашыраецца, расце і прафесійнасць яго ўдзельнікаў, а ў выніку адкрываецца ўсё болей новых імёнаў.

Ніводзін з 65-ці ўдзельнікаў «Надзеі» не паехаў з Гародні без падарунка. Галоўныя прызы — Гран-Пры конкурсу «Надзея-96» імя М.Багдановіча — атрымалі: Ганна Пасаман з Львова (педагог Міраслаў Валынскі) і менчук Цімур Шчарбакоў (ліцэй БАМ, педагог Валерый Карэтнікаў).

Хочацца падзякаваць арганізатару конкурсу «Надзея» гарадзенскаму кампазітару Віталю Радзіёнаву. Менавіта яго намаганнямі пяць гадоў таму ўзнік гэты, ужо традыцыйны конкурс. І за гэты час канкурсанты стварылі цэлую анталогію песень на вершы цудоўнага беларускага паэта Максіма Багдановіча.

**Сяргей КАНУННІКАЎ.**

# Кола сям'і

**Масару ІБУКА**

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Прысутнасць бабулі і дзядулі стварае добры стымул для развіцця дзіцяці

Часта, калі маладая сям'я жыве асобна ад бацькоў, бабулі і дзядулі аказваюцца адхіленымі ад выхавання дзяцей і ад жыцця маладой сям'і цалкам, і тады любое ўмяшальніцтва ўспрымаецца як перашкода. На жаль, у сучасным грамадстве гэта тыповая сітуацыя. Часам кажуць, што старыя песцяць дзіця так, што бацькі не ведаюць пасля, як з ім зладзіць. Асабліва схільныя да такога погляду маці, што лічаць сябе сучаснымі і прагрэсіўнымі. Я ведаю сям'ю, што жыве ў маленечкай аднапакаёвай кватэры, якая спецыяльна з'ехала з бацькоўскага дому, таму што ім здавалася, што яны не могуць правільна выхаваць сваё дзіця ў прысутнасці бабулі і дзядулі.

Ці абавязкова так рабіць, каб стварыць паўнавартасную сям'ю? Што тычыцца выхавання дзяцей, гэта яшчэ пад вялікім пытаннем. Зразумела, у Японіі і зараз ёсць сем'і, дзе свякроў надакучвае нявестцы парадамі, да першага дзіцяці ставіцца як да куміра, а астатнія сямейныя ўжо нічога не значаць. Такія феадальныя забабоны яшчэ існуюць. Але праўда і тое, што ў сям і, у якой жыве некалькі пакаленняў, ёсць свае перавагі. Менавіта ад старых можна ўспадчынніць культуру, мудрасць, а ўзаемаадносіны пакаленняў у любым выпадку даюць багаты эмацыйны досвед. Любая тэндэнцыя спесціць дзіця выкупляецца любоўю, казкамі і ўспамінамі, іншымі сродкамі стымуляваць і разнастойваць жыццё малечы.

Вядомы японскі навуковец Сэйджы Кайа гаворыць, што людзьмі, якія больш за ўсё паўплывалі на яго ў раннім дзяцінстве, былі яго дзядуля і бабуля. Дзядуля, вясковы староста, быў настолькі строгі, што варта яму было толькі кашлянуць, і дзіця зараз жа пераставала плакаць. Дзядуля быў строгі, але справядлівы. Доктар Кайа вырас моцны духам і трывалы фізічна. А яго бабуля, што ўсё жыццё праседзела за калаўротам, была, наадварот, найціхмянай кабетай. Напэўна, ад яе ён навучыўся цярплівасці: калі палоў гарод, не супакойваўся, пакуль не заставалася ніводнага пустазелля. Псіхолаг Акіра Таго лічыць, што менавіта гэтае ўменне засяродзіцца, упартасць у дасягненні мэты зрабіла доктара Кайа чалавекам цвёрдага характару і навукоўцам з сусветнай вядомасцю.

### Зносіны дзяцей між сабою трэба ўхваляць

Я ўжо казаў пра тое, што маці, якая цэлы дзень знаходзіцца побач са сваім дзіцем ці трымае яго на руках, дае яму поўную магчымасць для развіцця яго характару. Гэта ўплывае не толькі на разумовае развіццё, але і на развіццё пачуццяў.

Аднак малы яшчэ больш выйграе, калі мае фізічны кантакт не толькі з маці, але і з бацькам, братамі і сёстрамі ці з іншымі дзецьмі. Гэта стымулюе яго розум, развівае пачуццё спаборніцтва, камунікабельнасць, жаданне быць першым.

Доктар Хары Харлоў з універсітэта ў Віскансіне (ЗША) праводзіць даследаванне па сацыяльных кантактах сярод малпянятаў і ўплыву гэтых кантактаў на разумовае і сацыяльнае развіццё.

У першым досведзе доктар Харлоў змясціў малпяня ў клетку, закрытую з усіх бакоў драўлянымі дошкамі, унутры якой была толькі бутэлечка з малаком. Мэтай доследу было паглядзець, як будзе паводзіць сябе малпачка, што знаходзіцца нейкі час у ізаляцыі. Калі праз 3 месяцы яе пусцілі ў групу малпаў, яна спачатку адчувала сябе няўпэўнена, але ўжо праз тыдзень актывізавалася і пачала гуляць з іншымі малпамі. У другім досведзе малпачку трымалі ў ізаляцыі шэсць месяцаў. Калі яе пусцілі ў групу, яна хавалася ў куце, пазбягала ўсіх, зусім не гуляла з іншымі малпачкамі. У трэцім досведзе малпачка знаходзілася ў ізаляцыі 1 год, пасля гэтага яна была не ў стане гуляць нават з тымі, каго трымалі ў гэтых жа ўмовах. І нарэшце, у клетку змясцілі некалькі малпаў, якія былі да гэтага ў ізаляцыі, і адну, якая не была; у небаракі адбыўся нервовы зрыў ад адзіноты. Каэфіцыент разумовага развіцця ў гэтых малпаў быў нашмат ніжэйшы, чым у тых, якія гадаваліся ў нармальных умовах.

Па прачытанні пра гэтыя даследаванні я міжволі правёў аналогію з дзецьмі чалавека і прыйшоў да высновы, што малы, пазбаўлены зносінаў, вырастае адсталым разумова і цяжкім па характары. Зараз людзі пачалі менш зносіцца адзін з другім. І гэта не можа не адбіцца на выхаванні дзяцей. Улічваючы гэта, было б някепска, калі хаця б дзеля сваіх жа дзяцей маці стараліся часцей збірацца разам.

*(Працяг будзе.)*

## На вуліцы — па-расійску, з маці — па-беларуску

Нам, беларускім маці, якія выхоўваюць дзяцей, іншы раз хочацца пачуць парады спецыялістаў — філолагаў, псіхолагаў ды й проста чытачоў-аднадумцаў, — як у цяперашні неспрыяльны для беларускасці час навучаць дзіця беларускай мове ў расійскамоўным асяроддзі. А пакуль што гэтую праблему я мушу вырашаць сваім розумам і паводле ўласнай інтуіцыі.

Некалі вы друкавалі маю невялічкую нататку «Перавучваць дзіця на расійскую мову не збіраюся...» Але час крыху змяніў мае рашучыя настроі. Не, я ні ў якім разе не адракуся ад роднага, але... Да таго, як мая, чатырохгадовая цяпер ужо, дачка Алеся стала ўсведамляць сябе асобаю і параўноўваць сябе ды маму з іншымі расійскамоўнымі дарослымі і іхнімі дзецьмі, расійская мова ёй была непатрэбная. Але ў цяперашні час немагчыма ўсюды заставацца беларускамоўным. Для гэтага патрэбна вельмі моцная псіхіка ды й пастаяннае знаходжанне ў стрэсавай сітуацыі. Таму я з малых год паралельна перакладала дачцэ словы на расійскую мову, прычым рабіла і раблю ўсё гэта ў выглядзе гульні, без напружання, каб для дзіцяці пераключэнне на расійскую мову не было балючым.

Праўда, усё роўна яна ўжо цяпер з задавальненнем гаворыць па-беларуску і ад мяне хоча чуць толькі родную мову. І гэта ў чатыры гады! Я ўпэўнілася, калі гэта — не «трасянка», то дзіцяці проста цікава, што яна ў садку, на вуліцы стасуецца з дзецьмі па-расійску, а з мамаю дома — па-беларуску. Яна пастаянна пытаецца, як тое ці іншае слова будзе па-расійску, а як па-беларуску. І я з радасцю яе вучу. Ды іншага выйсця цяпер няма. Для мяне галоўнае, каб усведамленне, што ўсё вакол у большасці расійскамоўнае, не траўміравала псіхіку дзіцяці. Канечне, вельмі шкада, што не спраўдзіліся тыя аптымістычныя настроі і спадзяванні, што апанавалі яшчэ гады два таму. Але я ўпэўнена, што маё дзіця больш падрыхтаванае да жыцця і будзе больш упэўненым у сабе, ужо змалку дасканала ведаючы родную мову ды і вывучаючы расійскую, чым дзеці тых бацькоў, якія ўвогуле не вучаць дзетак беларускай, маючы асноўнай мовай расійскую. Усё ж такі, як ні душыцца мова, а беларускамоўнае асяроддзе існуе.

**Ала ШЫШОНАК.**
г.Мінск.

## Ваша сядзіба

Вось і ліпень настаў. У нас яго здавён называлі макушкай лета. Месяц з найбольшай летам колькасцю дажджоў, але і самы ці не шчодры на цяпло. Так што атрымліваецца па прымаўцы: хмарка намочыць — сонейка высушыць. Але калі зацята пойдуць дажджы — бяда. І да гэтага заўсёды былі гатовыя тыя, хто ў нас працуе на зямлі. Нашы продкі прадугледжвалі і такі неспрыяльны варыянт.

Зараз мы перапынім пакуль гаворку пра планіроўку і аздабленне сядзібы — газона, кветніка, увогуле тае часткі пляца перад хатай, што завецца палісаднікам. Да лістапада, прыкладна. Будзем назапашваць да тае пары і ўсе прапановы наконт гэтага нашых чытачоў. Але для тых, хто цяпер займаецца не толькі садам-агародам, а працягвае будавацца, параім, па-першае, не «разганяць» дужа вялікіх гмахаў — у гарачцы спаборніцтва з суседам тут можна неўзнарок сапсаваць мастацкі выгляд сядзібы (мы яшчэ раскажам, як такое бывае), а па-другое, з самага пачатку варта прыкінуць, якім будзе палісаднік: гэтай частцы сядзібы нашы продкі надавалі немалую ўвагу.

**У садзе**, акрамя клопату па своечасовай ліквідацыі пустазелля (не давайце яму каласіцца!) і падбору падаліцы, заўважайце галіны са значнай колькасцю пладоў. Лепей не падстаўляць апоры з жэрдак, а зрабіць уверсе ствала дрэва кальцо і да яго чапляць атожылкі з мяккага дроту, каб з іх дапамогай і мацаваць абцяжараныя галіны. У натуры гэта будзе падобна на ўнутраны каркас раскрытага парасона, пастаўленага ўверх ручкай.

На пачатку ліпеня прыкметна падрастаюць веснавыя прышчэпкі. Своечасова правярайце, ці не завялася на іх верхавінках зялёная тля. Тады варта апырснуць калонію анабазін (нікацін) — сульфатам з мылам (20 г на вядро вады з дабаўленнем 40 г гаспадарчага мыла), яшчэ якой адлаведнай «хіміяй» альбо настоем з тытуню, часнаку, палыну і інш. Аслабце асцярожна абвязку, ліквідуйце «дзікія» парасткі.

Клапаціцеся пра будучы ўраджай — назапашвайце кампост, закладвайце ў яго гаспадарчыя адыходы, рознае дробнае вецце, пілавінне. Збірайце попел.

**У агародзе** працягваецца пільны догляд за ўсімі культурамі. Адзначце стужкай памідоры, якія добра вызначыліся па хуткаспеласці і ўраджайнасці. З іх варта потым сабраць насенне.

Пара высяваць шматгадовую агародніну (шчаўе, равень і інш.). А яшчэ — на зіму цудоўную расліну, на якую апошнім часам пачалі мала звяртаць увагу, а дарэмна. Гэта — рэпа. Яна, як і рэдзька, — ці не самы старажытны і надзейны спадарожнік жыцця ўсходніх славян. Нездарма пра яе ў нас столькі прыказак, яна ж — і «гераіня» добрай дзіцячай казкі. Памятаеце: «Пасадзіў дзед рэпку...»? Ці гэта жартаўліва-ўхвальнае: «Баба, як рэпка...» Ці: «Проста, як параная рэпа». Або: «На галаве бруду — хоць рэпу сей». І гэтак далей. Рэпа — лекавая расліна. Яна ўтрымлівае вітаміны вялікай групы, у тым ліку правітамін А. Вітаміну С у яе — да 31 мг у працэнтных адносінах да вагі. Сырую яе нездарма вельмі любяць дзеці. Яна добра ўспрымаецца алергетыкамі. Нарэшце, пакладзеная ў склеп разам з бульбай, можа скарыстоўвацца як салата ажно да наступнай вясны. Для зімы добра садзіць рэпу сорту Пятроўская I (Вашчанка). Сеюць радкамі. Каліва ад каліва — 20 см. Паміж радкамі — 50см. Умерана даць арганікі, а затым расліны пастаянна паліваць, каб плады не аказаліся «драўлянымі». Поспеху!

**Д.БАРАДЗЕД.**

*Зялярскія гутаркі*

## Суніцы

«Сакавітыя, як налітыя, ды ўсе ладныя ды панадныя, — так напісаў пра суніцы Якуб Колас у славутых «Міхасёвых прыгодах». — У паветры пах ад іх носіцца, сама ягада ў рот просіцца».

Але спачатку пра лісце, бо ягоныя лекавыя ўласцівасці можна выкарыстоўваць ад ранняй вясны, калі пачынаюць цвісці суніцы. Іх трайчастыя ліст кі маюць шмат карысных рэчываў. Найболей — аскарбінавай кіслаты. Ёсць у іх жалеза, фосфар, кальц, манган, кобальт, дубільныя і араматычныя рэчывы. Таму, відаць, напар (адна дэсертная лыжка сухога лісця заліваецца шклянкай вару) і адвар лісця спажываюць ад жаўтухі, сухотаў, язваў, высыпаў. Свежае нагрэтае лісце прыкладаюць да ранаў і язваў.

Але вось пайшла «чутка, што суніц у лесе вырасла багата». Едзьце, ідзіце, бяжыце збіраць ягады!..

О, суніцы! Пра іх трэба было б гаварыць паэтам. У нашай жа сціплай рубрыцы адзначым, што па колькасці вітаміну С чырвоныя ягады саступаюць толькі смародзіне. Ёсць у іх і вітаміны А і $B_6$. Асаблівай увагі заслугоўвае араматычнае рэчыва, якое надае суніцам непаўторны водар. На жаль, няма навуковых дадзеных пра лекавыя ўласцівасці сунічнага водару.

«А якія сакаўныя! Проста капае з іх сок. І цукеркі тут на бок...» То й не дзіва! Сок жа — гэта арганічныя кіслоты, якія раствараюць шлакі ды выводзяць іх з арганізма. Таму тым, хто пакутуе ад атэрасклерозу, трэба есці як мага больш суніцаў. Яны пойдуць на карысць таксама іншым хворым. Славуты расійскі пісьменнік Уладзімір Салавухін расказаў, як вылечыўся яго сваяк, хворы на печань, — штодня хадзіў у лес і наядаўся суніцаў.

Пара і нам пайсці ўслед за Коласавым Міхасём.

**ЗЯЛЯР.**

*З нагоды*

# Фашызм у Беларусі не пройдзе

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1.)*

Я.Купалы, то хвост знаходзіўся недзе ў раёне дома-музея І з'езда РСДРП.

Мітынг пачаўся а13 гадзіне. Бралі слова ветэраны: прафесар Мікола Крукоўскі, былы начальнік штаба партызанскай брыгады імя К.Заслонава, паэт Артур Вольскі, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, дэпутат Людміла Гразнова, прафесар Юрый Хадыка, лідэры Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі і Юрый Беленькі, прадстаўнікі розных партый дэмакратычнай арыентацыі. У выступе кожнага прамоўцы, як адзначалася вышэй, гучаў як боль па палеглых, так і непакой за лёс Беларусі. Намаганнямі ўсяго грамадства мы павінны спыніць наступ камунафашызму ў нашай краіне — вось агульны лейтматыў усіх прамоў. Лявон Баршчэўскі распавёў прысутным пра чарговую правакацыю тых сіл, якія спрабавалі сарваць акцыю. Так, напярэдадні 22 чэрвеня па Менску былі расклееныя ўлёткі правакацыйнага зместу, у якіх былі заклікі змагацца супраць «маскалёў» і «праклятай расійскай культуры» са зброяй у руках. Вядома, што больш за 70 гадоў бальшавікі сталі майстрамі палітычнай правакацыі. Вось і яшчэ адна брудная фальшыўка. Цёпла сустрэў люд і выступ дэпутата Вярхоўнай Рады Украіны Юрыя Тымы, які сказаў, што Украіна не пакіне ў бядзе сваю сястру Беларусь і што ўкраінцы, якія змагаюцца супраць таталітарызму ў Беларусі, змагаюцца і за свабоду Украіны. У знак сяброўства пад воклічы «Жыве вольная Украіна — жыве Беларусь!» ён падарыў беларусам украінскі нацыянальны сцяг.

Пасля ўкраінскія дэпутаты Юрый Тыма і Мірaслаў Ілясэвіч правялі прэс-канферэнцыю ў штаб-кватэры БНФ. Яны прыехалі, занепакоеныя лёсам грамадзянаў Украіны, якія з 26 красавіка ўтрымліваюцца ў менскай турме. Дэпутаты дамагаюцца перадачы палітычных вязняў украінскаму боку. Калі ім не ўдасца дамовіцца аб гэтым з беларускімі ўладамі, яны збіраюцца дзейнічаць іншым чынам. Так, паводле словаў дэпутатаў, у іх ёсць дамоўленасць з прэзідэнтам Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Зелімханам Яндарбіевым, што той на перамовах з Крамлём выставіць прапанову абмену сямёх зняволеных у Менску ўкраінцаў на сямёх расійскіх ваеннапалонных. Застаецца толькі чакаць, як на гэта адрэагуе афіцыйны Менск.

У гэты ж дзень дэлегацыя БНФ, якую ўзначаліў Алег Трусаў, усклала кветкі да мемарыяла «Яма» на месцы расстрэлу гітлераўцамі вязняў менскага гета. У жалобнай урачыстасці ўзялі ўдзел пасол Ізраіля ў Беларусі Эліяху Валк, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу і сябры Габрэйскага нацыянальнага таварыства. Эліяху Валк узгадаў тых беларусаў, якія, рызыкуючы сваім жыццём, хавалі ад фашыстаў габрэяў. У Ізраілі такіх людзей называюць праведнікамі, шыльды з іх імёнамі прымацаваны да дрэў на мемарыяле ахвярам фашысцкага генацыду ў Ерусаліме.

Дэлегацыя схіліла над помнікам бел-чырвона-белыя сцягі, аддала даніну памяці ахвярам. Дарэчы, ніхто з габрэяў, якія так моцна пацярпелі ад гітлераўскага генацыду, не ўспрымаў гэтыя сцягі як «фашысцкія», у чым імкнецца пераканаць жыхароў Беларусі афіцыйная прапаганда. А вось ні чырвоных камуністычных сцягоў, ні чырвона-зялёных сымбаляў сённяшняй улады на ўрачыстасцях заўважана не было.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

Жалобныя ўрачыстасці прайшлі 22 чэрвеня ў Гомелі, Магілёве, Гародні, Віцебску і ў іншых гарадах Беларусі.



**На здымку:** мітынг каля тэатра оперы і балета.

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

ВУЧЫМСЯ

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

*Практычная стылістыка*

# Думка і «слоўная нагляднасць»

«Той, хто карыстаецца мовай у выніку маўленчай дзейнасці, павінен памятаць, што любая думка, будзе яна перададзена ў вусна-гутарковым і кніжна-пісьмовым выглядзе, патрабуе стопрацэнтнай адэкватнасці, або так званай «слоўнай нагляднасці».

У гэтым сказе, узятым для прыкладу з навукова-папулярнага выдання, прысвечанага культуры маўлення, спроба аўтара даступна і займальна выкласці навуковыя звесткі прывяла да некаторых стылёвых хібаў, якія скажаюць інфармацыю, а значыць, шкодзяць яе разуменню, даюць памылковае ўяўленне пра мову і стыль.

Напрыклад, заблытвае чытачоў фраза *карыстацца мовай у выніку маўленчай дзейнасці*, бо прыназоўнік *у выніку*, характэрны найперш для афіцыйнага і навуковага стыляў, падкрэслівае выніковыя адносіны паміж з'явамі рэчаіснасці, у дачыненнях асобаў. (Параўнайце: **У выніку недапастаўкі абсталявання цэх не працуе** — афіцыйны стыль; **У выніку моўнай недасведчанасці аўтар дапускае шмат стылёвых памылак** — навуковы стыль з адценнем афіцыйнасці, строгасці). Тэрмінам **маўленчая дзейнасць** абазначаюць працэс карыстання мовай (не выніки). Такім чынам, у аналізаванай фразе два разы (адзін з іх у зменены, супярэчным па зместу афармленні) рознымі моўнымі сродкамі паўтораны тоесныя звесткі.

Нельга пагадзіцца з няўдалай заменай выразных, зразумелых тэрмінаў **вусная і пісьмовая форма** (мовы) стылёва разнародным спалучэннем тэрмінаў **вусна-гутарковы** (неабходна **вусна-размоўны**) і **кніжна-пісьмовы** з аддзеяслоўным назоўнікам **выгляд**, шырокім па значэнні, што абазначае вонкавыя заўважныя рысы, абрысы, контуры, таму непрыдатнае для характарыстыкі моўных з'яў.

Цяпер звернемся да словазлучэння *стопрацэнтная адэкватнасць*. Кніжнае, спецыфічнае слова *адэкватнасць* мае агульнаўжывальны сінонім *адпаведнасць*. Абодва гэтыя найменні патрабуюць удакладнення супастаўляльных аб'ектаў і прымет (**што, чаму, у чым** адпавядае), інакш узнікае непрадбачаная стылем недасказанасць. Для ўказання ступені адэкватнасці выкарыстана слова *стопрацэнтная*, якое не перадае дакладныя навуковыя лічбы, а таму мае стылёвае адценне размоўнасці.

Як бачым, у цытаваным сказе стылёвая стракатасць выклікае супярэчнасць не толькі ў форме, але і змесце. Між тым характэрная навукова-папулярнаму выкладу займальнасць і даступнасць ствараецца праз арыентаваны на ўзровень ведаў чытачоў эмацыйны, яркі, вобразны выклад навуковых звестак, заснаваных на зразумелых, спецыяльна выбраных тэрмінах (толькі не спрошчаных і не змененых, бо непазбежна скажоных). Механічнае спалучэнне тэрмінаў з іншастылёвымі сродкамі і з'яўляецца асноўнай прычынай недасканаласці стылю. Магчыма прапанаваць наступныя варыянты выпраўлення:

**Кожная думка, выкладзеная ў вуснай ці пісьмовай форме, патрабуе дакладнага выражэння, гэта значыць слоўнай нагляднасці.**

**І для вуснай, і для пісьмовай формы выказвання важна, каб словы дакладна перадавалі думку.**

**У кожным выказванні — і вусным, і пісьмовым — патрэбна слоўная нагляднасць: яркае, выразнае, дакладнае адлюстраванне словамі пэўнай думкі.**

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# Млын з 600-гадовай граматы?

*(Заканчэнне.)*

Двайное абазначэнне часу — ***от созданного мира*** і па індыктах — выкарыстоўвалася толькі ў першым дзесяцігоддзі XVI ст. Да гэтага ў беларускіх афіцыйных паперах летазлічэнне вялося пераважна ад нараджэння Хрыстова. Абазначэнне ж месца выдачы дакумента ўласціва старажытным беларускім дакументам XIV стагоддзя. Адпавядае часу датавання граматы формула наймення (тытуляцыі) князя (праўда, як ужо адзначалася, міфічным імем): ***«Я, князь полоцки Ярослав Изяславович сознаваю сим моим листом вечне и непорушно...»***

Ускосна сведчыць на карысць пазнейшага напісання дакумента ўступны выраз, шырокаўжывальны па ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага таксама ў XVI стагоддзі: ***«Во имя божое стансе».*** Гэтыя словы выкарыстаныя, напрыклад, у дзвюх дарчых граматах Жыгімонта Старога вядомаму беларускаму палкаводцу князю Канстанціну Астрожскаму і пацвярджальных граматах на магдэбургскае права беларускіх гарадоў Высокае і Брэст-Літоўскі (пра якія гаворка яшчэ наперадзе).

Падрабязна тлумачацца прычыны і мэты перадачы зямлі: ***«...Иж на чолобитье архимандрита нашего Борисаглебского Филарета и всей братии его богомолцов наших ку потребе, выжывеню и пожитку их позволил есми и вечне надал на основание и созыждение млына берег волный...»*** Апісаны межы ўладанняў: ***«Противо их берега, на рецы Белчицы униз монастыра Борисоглебского, межы дорогами, которая ад монастыра идеть, и за Белчыцою другая дорога до Двины ведеть.»*** Прычым слова **вольны** мае тут значэнне 'пусты, незаняты', што таксама ўказвае на XVI стагоддзе.

У стылі граматы вылучаецца таксама прыназоўнік **ку** — адзнака польскамоўнай сістэмы, аднак беларускамоўныя рысы пераважаюць і ў лексічным складзе (**ліст** 'пісьмовае пасланне', **непарушна, патрэба, надаў, млын, вольны, уніз**) і ў граматычных формах (**нашого, на рецы Белчыцы**) і ў адметнасцях вымаўлення: у правапісе адлюстравана зацвярдзенне зычных — ***богомольцов, рецы, монастыра, межы, Белчыцою, выжывеню.*** Апошні прыклад указвае таксама на фанетычнае падаўжэнне — **выжывене** (выжыванне), якое, як сцвярджаюць вядомыя гісторыкі беларускай мовы Л.М.Шакун і В.П.Красней, «часам не адзначалася праз напісанне дзвюх адпаведных літар, а толькі адной: **веселе**, але не **веселие** або **веселье**».

Упамінанне млына дазваляе некаторым навукоўцам звязваць прычыну ўзнікнення падробнай граматы з пераглядам у XVI стагоддзі ў Полацку маёмасных правоў царквы, тым больш што XVI—XVIII стст.— час найбольшага распаўсюджвання млыноў на Беларусі. Аднак вернемся зноў да тэксту граматы. Рэзка адрозніваецца ад прынятых формаў забарона і ўказанне кары за яе парушэнне: ***А кто сию волю нашу или одно та сеи грамоты душеполезнои нарушить, да будеть часть его со Арием и со Юдою.*** Падобная кара называецца ў надпісе на Крыжы Ефрасінні Полацкай: ***«...и буди ему часть съ Июдою».*** У XIV жа стагоддзі пакаранне фармулявалася як адказнасць перад богам.

Стылёвым ускладненнем, што вызначае моўную і зместавую адметнасць, стракатасць, неаднароднасць стылю, з'яўляюцца таксама спалучэнні **основание и созыждение, грамоты душеполезнои, на твердость вечную** (апошняе ўжыта пры пацвярджэнні юрыдычнай правамоцы граматы).

Другім магчымым часам з'яўлення дакумента называюць канец XVIII стагоддзя, перад першым упамінаннем пра грамату 25 чэрвеня 1799 г., на якую спасылаліся, калі спатрэбілася пацвердзіць статус манастыра, пра што пісаў яго вікарый Варлам Пешка ў «Известии о Полоцкой Борисоглебской архимандрии».

Пытанняў яшчэ шмат і адказаць на іх без стылістычных ведаў немагчыма. Вось колькі загадак хавае старажытная грамата пра стары млын. Адкрыцці, магчыма, яшчэ наперадзе.

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*У нас ужо ёсць сёе-тое:*
*Ну, пляцьь, зямлі на чвэрць*
*надзела;*
*Лічы пад тысячу іх смела.*
*А там зямельны банк паможа.*
*Быка, карову прадамо...*

..............................................

*— Ну, вось кабеціна дзіўная! —*
*Міхал на жонку нападае: —*
*Ці ж мы зямлю сваю збываем?*
*Мы на **рахункі прыкідаем**.*

**Прыкінуць.** 3. // Прыблізна падлічыць; падумаўшы, разлічыць, прыйсці да якога-н. вываду (ТСБМ). **прикинуть** разг. 2. (приблизительно подсчитать) ausrechnen, nachrechnen (РНС).

Ausrechnen высчитывать, подсчитывать, вычислять du kannst dir ja ausrechnen, was da kosten wird разг. ты и сам можешь сосчитать (сообразить), во что это обойдется (GDRW).

*А як падводзілі **рахункі**,*
*То іх скраплялі пацалункі.*

Міхал і Антось стараліся збіць цану зямлі, хоць яны яшчэ не ведалі, колькі запросіць гаспадар, зніжаючы яе вартасць і прыкмячаючы яе бракі. Хвядос хоча пераканаць пакупнікоў, што зямля ўрадлівая. Потым за сталом пачалі таргавацца, і нарэшце торг заканчваецца — падводзяцца рахункі — называецца цана.

*— Дык так: тры тысячы, Фядосе!*
— Фядос Хадыка мысліць, разважае, нарэшце: — *Няхай так будзе, пане браце!* торговать 2. торговаться, handeln (РНС). handeln 2. Wir haben lange miteinander gehandelt мы долго торговались (DRS).

**Торговать** 2. (прицениваться) таргаваць; торговаться несов. таргавацца (РБС).

*Ды як-ніяк зямлі валока,*
*Міхал прыкідвае на вока*
***Рахункі** гэтай важнай справы.*

Прыкінуць вокам (на вока) — вызначыць прыблізна што-н. (ТСБМ). **Прыкінуць,** 3. Вызначыць прыблізна колькасць, вагу, даўжыню і пад. чаго-н. (ТСБМ). У гэтым урыўку слова *рахункі* мае значэнне *вынік*. **Вынік,** 1. результат; итог (БРС). Міхал уяўляе, што вырасце на гэтай зямлі, калі ён яе набудзе і дагледзіць.

Итог Ergebnis n (РНС). Die Arbeit hat gute Ergebnisse gebracht Работа принесла хорошие результаты. (DRS).

**Рахунак.** Ням. Rechnung, die узыходзіць да rechnen 'рахаваць, лічыць, вылічваць', с.-в.-ням. rëchenen, ст.-в.-ням. rëhhanon 'тлумачыць, паведамляць* плаціць, разлічвацца'. Г.Паўль лічыць, што асноўнае значэнне можа быць zusammen in Ordnung bringen (разам даводзіць да ладу). Да і.-е. кораня *rēg- 'прама' ўзыходзяць таксама грэц. argipous 'хутканогі', ст.-інд. ṛjú 'прама'.

Беларускае Адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# «Хвалите Господа вси языци...»

## Надпісанне да астрожскай «Азбукі» 1578 года Івана Фёдарава

Складаная іерархічная сістэма ўдакладненняў і азначэнняў набывае ў надпісаннях І.Фёдарава элементы градацыі і стварае ўражанне развітога перыяду, што адразу надае творам эпічную велічнасць і сціплую строгасць манументалізму. У якасці ўдалага выкарыстання прыёму трохступянёвай градацыі можа быць разгледжана згаданае надпісанне да астрожскай «Азбукі»: *«Всесилною десницею Вышняго Бога, оумышленїем(ъ) и промышленїемъ благочестиваго князя Конъстяньтина Конъстяньстиновича, княжати Острозскаго, воеводы Кїевъскаго, маршалка земли Волыньское, старосты Володимерскаго повелѣвшоу емоу оустроити домъ на дѣло книгъ печатныхъ»*. Кульмінацыя гэтага невялічкага рытарычнага твора асабліва падкрэслівае патрыятычна-асветніцкі аспект друкарскай справы: *«Къ томоу жъ еще домъ и дътемъ къ наоученїю въ своемъ отчизно(мъ) и славномъ градѣ Острозѣ, еже есть лежащїй въ земли Волыньстеи»*. Патроеная анафара з далучальным злучнікам «і» з'яўляецца не толькі ўдалым заканчэннем гэтага мініяцюрнага твора, але і падкрэслівае значную, калі не вядучую ролю Астрожскага асветніцкага гуртка ў развіцці выдавецкай справы: «**И** избравши моужей въ Божественномъ Писанїи искоусныхъ, въ греческомъ іазыцѣ, и въ латиньскомъ, паче же и въ роускомъ. **И** приставї ихъ дѣтишномоу сучилишоу», — і самога І.Фёдарава, у прыватнасці: «**И** сея ради вины напечатана сїя книжка по греческїи: «Альфа вита», а по роускїи: «Азъ боуки» — перваго ради наоучанїя дѣтьскаго многогрѣшнымъ Іоанномъ Федоровичемъ».

Класічны ўзор казання — так успрымаецца чытачом пасляслоўе да выдання львоўскага «Буквара« 1574 г. Твор пабудаваны паводле строгіх рытарычных канонаў і складаецца з трох частак. Ролю эксордыума (уступа) выконвае ў гэтым творы рытарычны зваротак: «Възлюбленый честный хрістїяньскїй роускїи народе, греческаго закона!» У нарацыі (развіцці думкі) выкладзена асноўнае прызначэнне выдання, дакладна паводле разгледжанага раней прынцыпу мазаічнасці: «Сїя еже писахъ вамъ, не отъ себе, но отъ Божественныхъ апостолъ и богоносныхъ святыхъ отецъ оученїя и преподобнаго отца нашего Іоанна Дамаскина, мало нѣчто. Ради скораго младеньческаго наоученїя, въмале съкративъ, сложныхъ. Наше сїи троуды моя благоугодны боудоутъ вашей любви. Прїимѣте сїя с любовїю, а я и (въ) оныхъ писанїихъ благооугодныхъ съ вожделѣнїемъ потроудитися хощу». Пасляслоўе завяршаецца традыцыйнай хрысціянскай падзякай, блаславленнем і просьбай памінаць аўтара ў малітвах: «Аще благословить Богъ вашими святыми молитвами. Аминь».

У складзе астрожскай «Азбукі» львоўскае пасляслоўе замяняецца **навуковым выданнем трактата** «О письменахъ» Чарнарызца Храбра, дзе, адстойваючы справу салунскіх братоў, боганатхнёны подзвіг св. Канстанціна-філосафа, аўтар паказвае дасканаласць і ўніверсальнасць славянскай азбукі.

Пра павагу да роднай мовы, пра патрыятычныя пачуцці да зямлі, якая яго ўзгадавала, яскрава сведчыць абавязковае змяшчэнне І.Фёдаравым вольнай інтэрпрэтацыі вядомага трактата «О письменахъ» Чарнарызца Храбра. І тут жа Фёдараўскі палымяны заклік «Хвалите Господа вси языци и похвалите его вси людие. А не едиными тремя письмены, а языки, яко ж они баснословят».

Культура мовы

*Максім ЛУЖАНІН*

# Шматграннае слова

Ніяк не магу ўстрымацца, каб зноў і зноў не выказаць павагі і здзіўлення: якія ж неабсяжныя магчымасці ў нашай мовы!

Прачытаў у «Нашым слове» (№ 45, 1995) артыкул «Насапрэч». Многа слушнага ў ім, да чаго трэба вельмі і вельмі прыслухацца, каб вызваліць мову газетаў і часопісаў ад неўласцівага ёй, нядбала, пад кальку, перакладзенага, некрытычна пазычанага выразу або слова. Усяго гэтага ў нашым друку — не купляць. А сустрэўшы дзве-тры неахайнасці, чытач, прынамсі я, адкладае кнігу. У горшым выпадку, пачынае здзекі з усяе мовы, хінецца да іншае, якую ведае яшчэ горш, і таму, праз няўмелае карыстанне, калечыць яе і наклікае кпіны на сябе.

Сцвярджаю прыкладам. Добры наш мастак, з паходжання расіец, доўга жыў у Віцебску, пасля ў Менску, адведаў у Маскве сваіх сваякоў. Цёпла сустрэлі, добра частавалі, але, як здалося яму, слаба падтрымлівалі размову. На развітанні папрасілі заходзіць. «Не пайду да вас больш», — сказаў у дзвярах. «Што ты, што ты?» — «А чаму ўвесь вечар гаварыў адзін я, а вы маўчалі?» — «Дык слухалі, вельмі ты смешна гаворыш па-расійску».

Вернемся да «Насапрэч». Можа, каб гэта не сустраканае дасюль слова, дык абмінулі б мае слабыя вочы ахрышчаную ім калонку. Не лазячы ў слоўнікі, зразумеў, што змяшчае яно ў сабе рашучае адкіданне чагосьці, выказвае жаданне стаць супраць. І прыняў. Не зважаючы на блізасць да ўкраінскага (насамперад, напрыканцы). Толькі, каб зусім абродніць слова, запісаў яго ў сшытак з літарао — насампрэч. Не трэба думаць, што тут выказана пярэчанне супраць новага ці пазычанняў.

Пазычанняў баяцца не варта. А калі добра тое, што ў нас лічаць паланізмамі, украінізмамі, русіцызмамі, пашукай каранёў і ўбачыш, што яны ў свой час бытавалі ў нашай мове і могуць лічыцца сваякамі ці нават бацькамі ўсіх іншых. І невядома, хто ў каго што пазычыў і каму ў каго трэба грамаце вучыцца.

Ёсць слоўнік «Błedy nasze» («Нашы памылкі»), выдадзены ў Вільні ў 1915 годзе з падзагалоўкам «Даследаванне пра чысціню польскай мовы ў Літве». Гэты слоўнік на 378 старонках распісвае: якіх слоў і выразаў трэба пазбягаць, бо яны належаць беларусам, значна менш — расійцам. Да прыкладу, аўтар выракаецца ад: *плюхаць, зглуміць, барыш, аер, сіні, бровар, аркушы, атрамантніца, цацка, бракаваць, бручка...* Ад выразаў: *блізка таго, біла пяць, ад майго імя, павекі* — і так бясконца.

Адмаўляючы польскай мове ва ўжыванні слова «сёрбаць», аўтар тлумачыць, што польская мова не мае адпаведніка, «бо і само «сёрбанне» мала калі ў нас здараецца пачуць». (Выходзіць, сёрбаюць, гэта значыць, некультурна ядуць, беларусы). У свой час адхрышчваліся ад сабраных у слоўніку беларускіх слоў як ад паланізмаў і нашы мовазнаўцы, дакладней, іх адхрышчвалі.

Хачу заўважыць, што ў гэтых справах патрэбна асцярожнасць: не варта адмаўляцца ад прынятага мовай, толькі ўважаючы на свой дыялект ці густ.

Чытаем артыкул... «Больш яго», замест гэтага выразу прапануецца «большы за яго». Правільна, але слова «больш» куды шырэйшае: больш у царкву не ходзяць, у сэнсе яшчэ (больш спакойна) ці, «больш не паклічу». Гэта сведчыць Тлумачальны слоўнік.

«Іншым разам» — добра, але **другім** разам азначае паўторнае дзеянне, як і «другім навaратам», а не толькі — не ў той час. А ў нас можна прачытаць «іншы прамоўца«, а не «другі».

«Кожны дзень» — не толькі «штодня» і «штогод», а і «штодзённа», «штогоду».

Наконт «па». «Нарысы з гісторыі» цяжкавата і не перадае сэнсу, які нясе апушчанае «па». Можа быць, лепей проста без «з» — «Нарысы гісторыі», гэта і падкрэслівае непаўнату асвятлення дысцыпліны.

«Па большай частцы» — гэта зусім не «з большай», «з большага» кажуць, хочучы падкрэсліць, што работа зроблена не цалкам, а нават і павярхоўна, абы-як. Тут, відаць, лепш было б ужыць «у большай частцы» ці «большая частка». У перакладзе выразу «па падручніку» скажаецца сэнс: вучацца не «паводле», а згодна з падручнікам, з падручніка, на падручніку.

Не выклікае згоды і пераклад «прыступіў да працы». Праўда, выраз гучыць, як «падышоў» (прыступіў да печы, да каня, да бацькі). Але і «ўзяўся» ці пасуе? Скажам, «чалавек атрымаў дыплом» і як далей: «узяўся за працу» ці «пачаў працаваць»? Лепш яшчэ — распачаў працу міністра, святара, доктара.

Зрэшты, у «Тлумачальным слоўніку» ўжыванню «па» прыпала аж са дзве старонкі. Трэба не ленавацца, а выбраць тое, што найбольш пасуе да зместу. Выбар у нас вельмі шырокі.

